ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.11 (3131) ● ● ЧАЦВЕР, 26 сакавіка, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY




У замежжы ахвотна купляюць беларускае

Айчынныя тавары прыйшлі на рынкі новых краін Стар. 2



Знічкі Айчыны Стар. 3



Свята з ірландскім акцэнтам Стар. 4

# Сучасны погляд на сівую даўніну

## Выйшаў у свет першы том "Вялікага гістарычнага атласу Беларусі"

Дзмітрый Альфер




Без сумненняў, атлас зойме сваё месца ў шэрагах айчынных гістарычных даведнікаў

Гэта — сапраўдная падзея. І па той прычыне, што падобнага навукова-даведачнага выдання не стварала дагэтуль ніводная краіна на ўсей прасторы былога Савецкага Саюза. "Вялікі гістарычны атлас Беларусі" дае магчымасць шырокаму колу грамадскасці зразумець гісторыю Беларусі ад старажытнасці да сучаснасці, акрэсліць месца беларусаў сярод іншых народаў.

Так, пакуль надрукаваны першы том Вялікага гістарычнага атласа Беларусі, які складаецца з двухсот пяцідзесяці старонак. На іх апісваюцца падзеі ад першабытнага перыяду і да сярэдзіны шаснаццатага стагоддзя. У выданні змешчана больш за шэсцьдзесят гістарычных картаў, распрацаваных сучаснымі вучонымі, а таксама дваццаць дзве ўнікальныя рэпрадукцыі старажытных картаграфічных дакументаў. Вялікую частку кнігі займае генеральная карта "Беларускія землі ў XVI стагоддзі". Акрамя таго, чытачу прапанаваны тлумачальныя нарысы і храналогія галоўных падзей, якія адбыліся на беларускіх землях, пачынаючы ад каменнага веку і да 1569 года.

У цэлым "Вялікі гістарычны атлас Беларусі" будзе складацца з трох тамоў. Плануецца, што другі надрукуюць ужо ў наступным годзе. У гэтай частцы Атласа будзе асвятляцца адзін з самых цікавых і багатых на падзеі перыядаў — ад падпісання Люблінскай уніі і да рэвалюцыі 1917 года. Гэта час, калі беларускія землі паспелі пабываць і ў складзе Рэчы Паспалітай, і пад сцягам Расійскай імперыі. У апошнім томе змесцяць даследаванні сучаснай гісторыі. У кожнай часткі можна будзе знайсці самую поўную, дакладную і разгорнутую гістарычную інфармацыю.

Праца над стварэннем "Вялікага гістарычнага атласа Беларусі" пачалася тры гады таму. Цяжка нават падлічыць, колькі ўсяго філолагаў, гісторыкаў, картографаў было задзейнічана ў даследаваннях. "Гэта сапраўды вялікая падзея як у развіцці беларускай картаграфіі, так і ў развіцці гістарычнай навукі, — гаворыць галоўны рэдактар "Вялікага гістарычнага атласа Беларусі", кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч. — У першым томе фактычна па новаму асветлены перыяд першабытнай гісторыі: падаюцца не толькі чыста археалагічныя карты, як гэта было ва ўсіх папярэдніх выданнях, але і гістарычныя, якія адлюстроўваюць працэсы, што адбываліся на тэрыторыі краіны, якія вялі да фарміравання беларускага этнасу. Змешчаны гістарычныя карты пятнаццатых-шаснаццатых стагоддзяў. Атлас будзе цікавы не толькі для выкладчыкаў, навучэнцаў, але і для вучняў".

Трэба адзначыць, што складальнікі "Вялікага гістарычнага атласа Беларусі" добра папрацавалі над стылістыкай мовы. Нарысы і тлумачальныя тэксты ў ім пададзены такім чынам, каб іх цалкам зразумелі нават школьнікі. З упэўненасцю можна сцвярджаць, што дзякуючы атласу тых, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, стане больш. А шматлікія новыя факты, невядомыя раней дэталі і нават адкрыцці, якія зрабілі навукоўцы, прыцягнуць увагу кожнага, хто хоць раз пагартае старонкі кнігі.

ДАМОЎЛЕНАСЦІ

# Інвестараў усё больш

**Мінскі абласны выканаўчы камітэт і Заходнепаморскае ваяводства Польшчы вызначылі сумесныя планы аб супрацоўніцтве рэгіёнаў.**

Бакі маюць намер развіваць узаемавыгадныя адносіны ў эканамічнай, інвестыцыйнай, культурнай і турыстычнай сферах. Як вядома, гэта ваяводства размешчана на паўночным захадзе Польшчы, дзе развітая суднабудаўнічая прамысловасць, а таксама сельскагаспадарчая вытворчасць і сфера паслуг. Рэгіён вельмі прывабны для турыстаў.

Старшыня Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Леанід Крупец адзначае, што аналагічныя дамовы аб супрацоўніцтве падпісаны і з іншымі рэгіёнамі Польшчы. Дарэчы, цяпер на тэрыторыі вобласці ўжо дзейнічаюць шэсцьдзесят прадпрыемстваў з удзелам польскіх капіталаў. Інвестараў, зацікаўленых у наладжванні дзелавых сувязяў, становіцца ўсё больш. Напрыклад, каля беларускай сталіцы мэблевы гіпермаркет плануе пабудаваць польская кампанія Scala Construction. Для рэалізацыі праекта ўжо вылучаны зямельны ўчастак плошчай 10 гектараў. Праект будзе рэалізоўвацца ў некалькі этапаў. Толькі на пачатковай яго стадыі ў будаўніцтва будзе інвесціравана 20 мільёнаў еўра. А усяго ў раёне Мінскай кальцавой аўтадарогі плануецца ўзвесці не менш чатырох гіпермаркетаў.

ВЕСТКІ

## Калі аб'ядноўваюцца навукоўцы

**Тэхнапарк Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта "Металіт" і навуковы цэнтр "Усход-Захад" Касельскага універсітэта (Германія) плануюць стварыць сумесны Навукова-тэхнічны цэнтр.**

Новая структура дазволіць пашырыць агульную даследчую працу і дапаможа прасоўванню на знешнія рынкі навуковых дасягненняў абедзвюх краін.

Стварэнне цэнтра стане чарговым этапам узаемадзеяння беларускіх і нямецкіх вучоных. "Металіт" і "Усход-Захад" і раней узаемадзейнічалі ў галіне інавацыйнай дзейнасці. Сёння супрацоўніцтва прадугледжвае таксама абмен навуковай інфармацыяй, садзеянне трансферу новых тэхналогій, арганізацыю сумесных навуковых канферэнцый і семінараў.

## Партнёры працуюць разам

Аксана Шыкуць

**Мінскі гарадскі цэнтр занятасці, Шведская служба занятасці, Федэральная служба занятасці Расіі і Літоўская біржа працы будуць рэалізоўваць сумесны праект.**

Ва ўмовах уплыву сусветнага фінансава-эканамічнага крызісу рэалізацыя такога праекта стане актуальным крокам для развіцця рынку працы беларускай сталіцы. У аснову сумеснай працы пакладзены вопыт Шведскай службы занятасці. Праект будзе рэалізоўвацца па трох кірунках — збор інфармацыі аб вакансіях, складанне прагнозаў рынку працы і прадстаўленне інфармацыі беспрацоўным аб наяўных вакансіях. Сваімі напрацоўкамі падзеляцца таксама расійская і літоўская службы занятасці.

Перад тым як приступіць да рэалізацыі праекта, эксперты са Швецыі правялі папярэдні аналіз рынку працы ў Мінску. Першапачаткова адабраны тры пілотныя аддзелы працаўладкавання ў буйных раёнах сталіцы. Потым адпрацаваныя тэхналогіі мяркуецца распаўсюдзіць па ўсім горадзе.

# У студэнтаў — свой спадарожнік

**Мемарандум аб супрацоўніцтве ў галіне касмічнай адукацыі падпісаны паміж Беларускім і Маскоўскім дзяржаўнымі універсітэтамі.**

Першым канкрэтным крокам па рэалізацыі дамоўленасцяў стане стварэнне і запуск універсітэцкага навукова-адукацыйнага мікраспадарожніка. Галаўнымі выканаўцамі праекта выступяць Цэнтр аэракасмічнай адукацыі БДУ і Навукова-даследчы інстытут ядзернай фізікі МДУ.

Умовы і перспектывы такога амбіцыёзнага праекта спецыялісты абмяркоўвалі ў Мінску. Вырашана, што частку апаратуры для студэнцкага мікраспадарожніка будуць ствараць беларускія навукоўцы, частку — расійскія. Эксплуатацыю і прыём інфармацыі з малога касмічнага апарата спецыялісты плануюць ажыццяўляць сумесна.

Навукоўцы плануюць выкарыстоўваць спадарожнік для вывучэння змяненняў у іанасферы Зямлі, а таксама асаблівасцяў яе свячэння. На аснове гэтых дадзеных можна будзе прагназаваць землетрасенні, даследаваць праблему змянення клімату на планеце, вырашаць іншыя навуковыя задачы.

У Беларусі падобны праект будзе выконвацца ўпершыню. У Расіі ж вопыт па стварэнні студэнцкіх мікраспадарожнікаў ужо ёсць.

# У замежжы ахвотна купляюць беларускае

## Айчынныя тавары прыйшлі на рынкі новых краін




Гэтыя МАЗы адправіліся ў Казахстан сваім ходам

Мілена Ануфрыева

Геаграфію паставак беларускай прадукцыі папоўнілі Панама, Лаос, Французская Гвіяна, Гаяна, Албанія, Нідэрландскія Антыльскія астравы, Маўрыкій, Тога, Нігер, Уругвай. Летась павялічылася і наменклатура паставак у тыя дзяржавы, якія з'яўляюцца традыцыйнымі партнёрамі нашай краіны. Напрыклад, у 2008-м беларускія аўтобусы пастаўляліся ў Германію, Арменію, Славакію, Латвію, Кубу, Венесуэлу, Швецыю, грузавыя аўтамабілі — у Анголу, Нідэрланды, ААЭ, Пакістан, Турцыю, трактары і седлавыя цягачы — у Анголу, Замбію, Нігерыю, Кот-д'Івуар, Турцыю, Карэю, Славенію. Рухавікі ўнутранага згарання пачалі экспартавацца ў Судан, Грузію, Гвінею, Румынію, Аўстралію, Кіпр, Афганістан, дарожная тэхніка — у Венесуэлу і Гану. Пашырылася геаграфія паставак тэлевізараў, мэблі, халадзільнікаў, лекавых сродкаў.

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, усяго ў 2008 годзе Беларусь павялічыла аб'ём знешняга гандлю таварамі ў параўнанні з 2007 годам амаль на 40 працэнтаў, што склала звыш 72 мільярдаў долараў.

# Каб памяталі…

**У акцыі, прысвечанай 65-годдзю вызвалення вязняў фашысцкага лагера смерці "Азарычы", удзельнічалі і ветэраны, і моладзь.**

Арганізатары акцыі наладзілі экскурсію ў мемарыяльны комплекс "Азарычы" (Гомельская вобласць) для ветэранаў — былых вязняў фашысцкіх канцлагераў, а таксама для прадстаўнікоў моладзі Фрунзенскага раёна Мінска. Сярод удзельнікаў былі і цяжкія падлеткі. Па меркаванні прадстаўнікоў раённай інспекцыі па справах непаўналетніх, гэтая паездка дапаможа юнакам у выбары правільных жыццёвых арыенціраў.

Пачыналася акцыя з урачыстай цырымоніі ўскладання кветак ля Вечнага агню на Плошчы Перамогі ў Мінску. На месцы ж былога лагера смерці прайшоў траурны мітынг-рэквіем, а таксама адбылася экскурсія па мемарыяльным комплексе і музеі.

# Гучалі песні Кабзара

Аліна Грышкевіч

**У мінскім Доме дружбы прайшоў вечар, прысвечаны 195-годдзю з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі.**

Такія творчыя сустрэчы праходзяць штогод. У іх падрыхтоўцы актыўны ўдзел прымаюць таварыства дружбы "Беларусь-Украіна", пасольства Украіны, а таксама беларускія паэты.

Творы вялікага украінскага паэта гучалі са сцэны на беларускай, украінскай, армянскай, кітайскай, в'етнамскай, чэшскай і балгарскай мовах. Па словах старшыні праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніны Івановай, Тарас Шаўчэнка з'яўляецца свайго роду візітнай карткай Украіны, гэтак жа як Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч — для Беларусі. У нашай краіне ўстаноўлена шэсць помнікаў Т. Шаўчэнку, беларусы добра ведаюць яго творчасць.

# Дапамога старанным

**Сем праектаў сталі пераможцамі конкурса Фонда сацыяльнага развіцця Сусветнага банка і атрымаюць грантавую падтрымку.**

Грант, у прыватнасці, будзе выдаткаваны пад праект "Бізнэс-Атланты", распрацаваны грамадскім аб'яднаннем "Цэнтр падтрымкі і развіцця юнацкага прадпрымальніцтва". Пры яго рэалізацыі плануецца даць магчымасць студэнтам беларускіх вну атрымаць навыкі вядзення бізнэсу.

Пераможцам конкурсу названы таксама праект, з дапамогай якога актывізуецца прадпрымальніцкая дзейнасць у сельскай мясцовасці Чэрвенскага раёна. Падтрымку атрымае і ініцыятыва па навучанні ўдзельнікаў малога бізнесу новым умовам гаспадарання ў Віцебску.

ЯК СПРАВЫ, ДЫЯСПАРА?

# Сябры збяруцца ў Алушце

## 10-гадовы юбілей адзначае адна з найбольш вядомых суполак беларусаў Крыма

Партэніцкі філіял Алушчінскага культурна-асветніцкага таварыства "Сябрына" вядзе радавод з 1999 года. Тады ўпершыню сабраў землякоў у бібліятэцы старажытнага пасёлка Партэніт заслужаны работнік культуры Аўтаномнай Рэспублікі Крым Віталь Бартохаў, які цяпер узначальвае беларускае згуртаванне Алушты. Нядаўна ён наведаў Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма". Госць нагадаў, што з сустрэчы ў Партэніце пачыналася і Алушчінскае таварыства – яно аформілася праз год. Яшчэ і сёння сябры згадваюць літаратурна-музычную кампазіцыю "Мне сняцца сны аб Беларусі" ў натхнёным выкананні Віталя Мікалаевіча. Тады сабралася крыху больш за 20 энтузіястаў з жаданнем зберагаць і прадаў-жаць традыцыі і культуру свайго народа, перадаваць яе нашчадкам. А традыцыйныя беларускія ручнікі, якія ўпрыгожвалі залу бібліятэкі Партэніта, быццам выслалі "Сябрыне" добрую дарогу ў будучыню. Дарэчы, і цяпер да ўсіх сустрэч зала бібліятэкі ўпрыгожваецца ручнікамі: яны нібы на крылах пераносяць беларусаў на Радзіму.



Сустрэча ў бібліятэцы пасёлка Партэніт для беларусаў — як свята

На юбілейнай сустрэчы ў Партэніце землякоў віншавалі госці з Сімферопаля: члены праўлення Саюза беларусаў Крыма Аляксандр Шамрук, Ніна Жукоўская і прафесар Таўрычаскага нацыянальнага універсітэта Міхаіл Юрахно. Апошні — вучоны, дзіцячы пісьменнік — падараваў бібліятэцы свае кнігі. Ад землякоў з Ялты выступалі старшыня сябрыны "Белая Русь", член Саюза мастакоў Украіны, ён жа майстар дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і ювелір Пётр Якубук і выкладчыца Ялцінскага гуманітарнага універсітэта Ірына Чырыч — яна парадавала ўсіх добрымі песнямі. Гучалі беларускія песні і ў выкананні Ганны Песенкі з Малога Маяка. Творы сучасных паэтаў і кампазітараў Беларусі прадстаўлялі Наталля Маркевіч і Віталь Бартохаў, з цёплым словам да землякоў звярнулася старшыня Партэніцкага філіяла "Сябрыны" Зінаіда Пшонкіна.

Бібліятэка ў Партэніце — як родны дом для "Сябрыны". Тут добразычліва ставяцца да беларускага зямляцтва, дапамагаюць ладзіць сустрэчы, тэматычныя выставы. Штогод кола сяброў пашыраецца. Сёлета, напрыклад, членам "Сябрыны" стала ўрач-біяхімік Святлана Конанава. А ветэран вайны і працы, ардэнаносец Ада Фёдараўна Зінкевіч, якая хутка адзначыць 85-годдзе, мусіць, не прапусціла аніводнага пасяджэння. На юбілейнай вечарыне раскрыў свой талент Аляксандр Аляхно — душою свята стаў ягоны гармонік, пад яго і спявалі, і танцавалі.

"Сябрына" не толькі падводзіла вынікі, але і ўдакладняла планы на будучыню. Сёлета, як вядома, спаўняецца 65 гадоў з часу вызвалення Крыма, Украіны, Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і шэраг мерапрыемстваў крымскія беларусы рыхтуюць да гэтых святаў. У прыватнасці, павіншуюць ветэранаў Вялікай Айчыннай з ліку беларусаў, ды і ўсіх франтавікоў, якія вызвалялі Беларусь.

Якраз 100 гадоў таму Максім Багдановіч упершыню наведаў сонечны паўвостраў. Прыезд у Ялту ў 1909 г. прыдаў новых сіл, напоўніў паэта здароўем, новымі эмоцыямі і ўражаннямі, у яго засталіся пра Крым добрыя ўспаміны. Тут нарадзіліся цудоўныя вершы, тут ён спаткаў сваё каханне. Адна з сустрэч беларусаў будзе прымеркавана і да гэтых памятных датаў.

А яшчэ ў "Сябрыне" шмат планаў па адраджэнні нацыянальных абрадаў і традыцый. Віталь Бартохаў расказаў, што многія алушчінскія беларусы цікавяцца работай суполкі і гатовы да яе падключыцца. Добрыя словы пачуў у свой адрас і сам В.Батохаў, лаўрэат прэміі Максіма Багдановіча за ўклад у развіццё беларускай культуры. "Такое прызнанне маёй сціплай працы, удзячнасць сяброў даюць сілы, каб арганізоўваць і праводзіць новыя мерапрыемствы", — прызнаўся крымскі госць у таварыстве "Радзіма". А запаветнае жаданне ў яго такое: правесці сёлета першы Міжнародны фестываль беларускай песні "Алушта збірае сяброў", запрасіўшы на яго беларусаў з розных краін.

Галіна Навіцкая, каардынатар праектаў таварыства "Радзіма"

Каб са сталіцы выправіцца ў вандроўку па даўнейшым Ігуменскім павеце, трэба набрацца цярпення і вызначыць, куды ж плануем дарогу. На Уздзеншчыну?.. Таксама частка яе належала колішняму Ігуменскаму павету. У Смалявічы — іншы зусім кірунак. Можна паехаць на Беразіно, зазірнуўшы спярша ў Чэрвень — колішні павятовы Ігумен… Але ж мы, давайце, зусім абмяжуем нашу вандроўку і, пакінуўшы тлумны Мінск, скіруем свой шлях на Пухавічы. Па дарозе зазірнём у Дукору. А назад будзем вяртацца праз Чэрвень. Не забудзем пры гэтым заехаць у Смілавічы.



Смалявічы. Рынак. 1918 г.

# Знічкі Айчыны

Алесь Карлюкевіч


Беразіно. Маёнтак графа Патоцкага. Пачатак XX ст.


Пухавічы. 1918 г.

Чатыры старажытныя мястэчкі. Адно калісьці было павятовым горадам, цяпер — раённы цэнтр Чэрвеньшчыны. Два іншыя — Дукора і Пухавічы — звычайныя вёскі. Праўда, з прэтэнзіяй на першынство ў краі. Пухавічы нават на пачатку 1920-х былі раённым цэнтрам. Але ўжо ў 1925-м мясцовая раённая сталіца з адпаведнымі ўстановамі пераехала ў суседнюю Мар'іну Горку. Хіба што Смілавічы сталі гарадскім пасёлкам…

Дык з якімі імёнамі, прыналежнымі да гісторыі на многія вякі, звязаны згаданыя паселішчы?..

Дукора. Актрыса Таццяна Бандарчык, пісьменнік Васіль Гарбацэвіч, мовазнаўца Марыя Жыдовіч… Іх век спрычыніўся да маляўнічага і шматаблічнага жыцця, калі мястэчка было ў эпіцэнтры сацыяльных і грамадскіх падзей на Міншчыне. Калі палац і сядзіба Оштарпаў, а затым Гартынгаў прымалі ў сябе губернскую эліту. Цяпер відаць толькі некаторыя сляды той былой архітэктурна-ландшафтнай славы. Стаіць яшчэ адзінокая вежа каля ранейшага ўезду ў панскую сядзібу. Кажуць, што мясцовы прадпрымальнік Уладзіслаў Гумоўскі марыць узнавіць сядзібу, робіць першыя крокі па гэтым шляху. Ёсць і флігель з тых даўніх часоў. Некалькі гадоў у ім месціўся Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей, заснаваны Васілём Мікітавічам Свістуном, вядомым у краі збіральнікам гістарычнай памяці. Мо яшчэ вернуцца ў сцэны флігеля экспанаты, якія раскажуць пра знакамітых ураджэнцаў хаця б аднае Дукоры. Як, прыкладам, пра Марыю Андрэеўну Жыдовіч.


Ігумен. Чэрвень. Прачкі. Пачатак XX ст.


Смілавічы. Манастыр (мал. Н. Орды)


Пухавічы. Рынак. Пачатак XX ст.

Няпроста пачынаўся яе шлях у навуку. У 1938 г. скончыла Мінскі педінстытут, працавала ў БДУ, у Інстытуце мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, абараніла доктарскую дысертацыю, і ў 1959-м вярнулася ў родны універсітэт, стала прафесарам. Вывучала гісторыю беларускай мовы. Марыя Андрэеўна — адна з укладальніц "Слоўніка гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі". Асаблівыя заслугі М.Жыдовіч — у збіранні дыялектных слоў. У 1970 годзе выдавецтва БДУ выпусціла першы "сшытак" мінска-маладзечанскіх гаворак. Марыя Андрэеўна — сярод укладальнікаў. Са ста шаснаццаці адрасоў, дзе ўпісаны словы і выразы, загадкі, фразеалагічныя спалучэнні, — восем пухавіцкіх паселішчаў. І, канешне ж, родная для даследчыцы Дукора, а таксама суседнія Харавічы. Ды і блізкія, недалёкія да Дукоры, да Пухавіччыны паселішчы — Турэц, Рудня…Чытаю "дукорскія" фразеалагізмы — ёмкія, каларытныя, сакавітыя… Здаецца, словы прамяняць, іскрацца, настолькі шматабсяжны ў іх змест: "Як пакорміш, так паедзяш", "шыць аўсяным штыхам", "хоць плач, хоць скач", "хто пытая, той ня блудзіць"...

Наслухаўшыся дукорскай гаворкі, выправімся ў Пухавічы. Цяпер паселішча абмінае дарога на Бабруйск і Гомель. А некалі тракт ішоў праз саменькае мястэчка, высцеленае брукаванкай з каменя. І нават я з 1970-х гадоў памятаю тую брукаванку. Праўда, ужо не на цэнтральнай, а цяпер — Савецкай вуліцы, якая і тады была заасфальтавана. Каменне адбівала сонечныя восеньскія зайчыкі па вуліцы Кастрычніцкай, непадалёку ад месца, дзе ў XIX і на пачатку XX стагоддзя ладзіліся кірмашы. Адзін са здымкаў з калекцыі У. Ліхадзедава якраз і вяртае ў тыя часы.

Пухавічы, дзе школа працуе ажно з 1863 года, выправілі ў вялікае жыццё шмат цікавых людзей. Нагадаю імёны толькі некаторых з іх: член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі доктар медыцынскіх навук Арнольд Смеяновіч, генерал-лейтэнант Яўген Мікульчык, кандыдат сельскагаспадарчых навук Аляксандр Матоха, кандыдат эканамічных навук Мікалай Свірыдаў, доктар палітычных і кандыдат філасофскіх навук прафесар Санкт-Пецярбургскага універсітэта Мікалай Лабуш, акцёр-купалавец Аляксандр Лабуш… З Пухавічамі звязаны імёны пісьменніка Алеся Пальчэўскага, военачальніка, двойчы Героя Савецкага Саюза Якава Смушкевіча, лётчыка Героя Савецкага Саюза Мікалая Шута і нават Міхаіла Турэцкага, заснавальніка легендарнага арт-гурта "Хор Турэцкага"…

З Пухавіч вяртаемся на Блонь, а далей праз Турын — у Чэрвень, старажытны Ігумен. Тут да паслуг турыста — і краязнаўчы музей, і раённая бібліятэка, дзе працуюць цікаўныя да роднай гісторыі людзі, штогод ладзяцца краязнаўчыя чытанні, а пасля намаганнямі бібліятэкараў, аддзела культуры райвыканкама выдаюцца адмысловыя зборнікі матэрыялаў. Чэрвень — радзіма паэта-сатырыка Міколы Вяршыніна. Недзе на старых Ігуменскіх могілках пахаваны рускі мемуарыст XIX стагоддзя Асінкрыт Ламачэўскі. У 1865–1868 гадах ён быў мінскім губернскім паштмайстрам. У адстаўку па лініі штацкай выйшаў у званні сапраўднага стацкага саветніка. У 1869–1870 гадах — міравы пасрэднік Ігуменскага павета.

З Чэрвеня, калі ехаць па Магілёўцы, мы і патрапім у Смілавічы. Тут нас чакае сустрэча са старажытным паркам, палацам, які некалі належаў Манюшкам, затым Ваньковічам. Цяпер у Смілавічах працуе музей Хаіма Суціна, які з'яўляецца ўраджэнцам паселішча. Рэдка згадваецца ў дачыненні да Смілавіч імя славутай актрысы Фаіны Ранеўскай. А між тым яе родавыя карэнні — якраз на Ігуменшчыне, яе бацька, Гірш Хаімаў Фельдман, — мешчанін мястэчка Смілавічы Ігуменскага павета. На пачатку XX ст. Фельдманы валодалі многімі будынкамі, свірнамі, аптовай крамай і нават параходам "Святы Мікалай" у Екацярынаславулі, а затым у Екацярынадары. А спярша ўсё ж былі Смілавічы… З гістарычнай памяткі пра Смілавічы канца XIX ст.: "…95 двароў, 500 жыхароў, дзейнічалі валаснoе праўленне, 3 праваслаўныя царквы, мусульманская мячэць, касцёл, 3 яўрэйскія малітоўныя дамы… "Паводле перапісу 1877 года значыцца і "…прыёмны пакой на 2 ложкі для хворых…" Сёння ў гарадскога пасёлка Смілавічы — зусім іншая гісторыя, зусім іншыя адметнасці. Але па-ранейшаму старыя жыхары мястэчка ўважлівыя да сваёй гісторыі, помняць і старыя вулачкі, і многія падзеі. Так што не здзіўлюся, калі поруч з музеем Суціна ў Смілавічах з'явіцца з часам і краязнаўчы музей. Тым болей, што пачатак пакладзены: у Смілавіцкай СШ №1 намаганнямі найперш дырэктара Івана Паўлавіча Ярашэвіча вядзецца вялікая краязнаўчая, пошукавая праца.

© В поисках утраченного — Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

# Творчае крэда мастачкі

## На выставе ў Магілёве прадстаўлены работы Галіны Конанавай


БЕЛТА

Сярод наведвальнікаў выставы пераважаюць жанчыны

**Сяргей Кулягін**

Жаночы вобраз стаў своеасаблівым творчым крэда яшчэ ў самым пачатку кар'еры гэтай мастачкі. Дыпломная праца выпускніцы мінскага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Беларуская акадэмія мастацтваў) была таксама прысвечана жанчыне і звалася "У краі блакітнага ільну". Цяпер гэта палатно знаходзіцца ў калекцыі Магілёўскага абласнога мастацкага музея. "Мае гераіні — гэта сучасныя жанчыны, асобы з багатым унутраным светам, у якім можна запазычыць натхненне. Я не прызямляю жаночы вобраз, я паэтызую яго, я яго спяваю!", — падкрэсліла мастачка.

Асноватворным у сваіх малюнках Галіна Конанава лічыць колер. "Для мяне не сюжэт важны. Я усё адчуваю колерам, пачынаючы ад эмоцый і заканчваючы канцэпцыяй", — адзначае яна. У мастачкі ёсць нават цыкл работ "Каляровы настрой". Пры гэтым у дрэнным настроі майстар ніколі не працуе. Яна лічыць, што, паколькі мастак мае зносіны з гледачом пры дапамозе малюнкаў, то можа перадаць гледачу сваю энергетыку.

Малюнкі Галіны Конанавай знаходзяцца ў фондах Беларускага саюза мастакоў, Міністэрства культуры Беларусі, а таксама ў прыватных калекцыях у Беларусі, Расіі, Францыі, ЗША і Германіі.

# Вясёлая калекцыя

**Таццяна Пастушэнка**

**Рэдкія фігуркі вясёлых людзей з бронзы, керамікі і шкла з унікальнай калекцыі заслужанага артыста Расіі, вядомага цыркавога акрабата і рэжысёра Мікалая Чалнакова выстаўлены ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.**

"Будучы прафесійным акцёрам і гімнастам, гастралюючы з цыркам у розных краінах, я быў улюбёны ў клаўнаду, блазнаванне. А вось стаць клоўнам, на жаль, у мяне не атрымалася. І свае нерэалізаваныя магчымасці я ператварыў у калекцыю статуэтак, якія аднойчы вырашыў паказаць гледачам", — расказаў гісторыю з'яўлення незвычайнай калекцыі Мікалай Чалнакоў.

Першы экспанат калекцыі быў набыты ім у Нью-Ёрку. Далей яе папаўнялі статуэткі, набытыя ў тых краінах, у якіх праходзілі гастролі цырка. Сёння збор налічвае каля 500 клоунскіх статуэтак, а яго ўладальнік уваходзіць у пяцёрку сусветна вядомых збіральнікаў па гэтай тэматыцы.

Мінулым летам Мікалай Чалнакоў падарыў бронзовую скульптуру клоўна Віцебску. Дабрадушны блазан з гармонікам і верным пудзелем "пасяліўся" недалёка ад Летняга амфітэатра — галоўнай сцэнічнай пляцоўкі Міжнароднага фэсту мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Скульптура "Вулічнага вясёлага клоўна" была выканана па заказу Мікалая віцебскім скульптарам Іванам Казаком.

РОДНАЯ МОВА

# Пра што слова гаворыць

**Гэтая рубрыка прысвечана моўным скарбам нашай спадчыны і спрэчным пытанням, што ўзнікаюць пры размове па-беларуску**

Беларуская мова вельмі багатая. Часам для абазначэння аднаго паняцця існуе да дзесятка слоў. Безумоўна, далёка не кожны ведае ўсе сінонімы. Аднак, відаць=, кожны пагодзіцца, што прыемна гутарыць з чалавекам, які валодае багатым лексіконам.

Пачалася каляндарная вясна, аднак гэта не значыць, што з яе прыходам адразу сходзіць снег і становіцца цёпла. Гэтая пара, дарэчы, вельмі небяспечная. Лёд на рэках растае, і можна трапіць у **палонку**. Слова **палонка** ў беларускай мове абазначае незамерзлае або расталае месца на ледзяной паверхні ракі ці возера, а таксама спецыяльна прасечаную адтуліну ў лёдзе. Яно мае шэраг сінонімаў. Сярод іх — словы **проламка** і **пелька**.

А яшчэ не варта пакуль здымаць **футра**. Дарэчы, не ўсім вядома, што **футра** — гэта і шэрсць жывёл, і выробленая шкура пушнога звера, і зімовая вопратка з такой шкуры. І некаторыя называюць гэтыя паняцці словам **мех**. Між тым, **мех, мяшок** — гэта мера для чаго-небудзь сыпучага, а таксама — ад тары з палатна.

У любой мове, у тым ліку і беларускай, ёсць пласт слоў, нацыянальная адметнасць якіх выяўляецца ў немагчымасці знайсці ім іншамоўны аднаслоўны адпаведнік. Яны могуць абазначаць характэрныя толькі для пэўнай культуры прадметы і паняцці: напрыклад, нацыянальныя стравы, традыцыі.

У кожнай мове ёсць таксама спецыфічныя мадэлі слоў. Што датычыцца беларускай мовы, то адна з такіх — утварэнне дзеясловаў закончанага дзеяння пры дапамозе некаторых прыставак.

**Зніякавець, зняволіць, знепрытомнець** — яркія прыклады гэтай мадэлі. Прыведзеныя словы — узоры каларытнай беларускай лексікі. Растлумачу іх. **Зніякавець** — гэта тое ж, што і разгубіцца; **зняволіць** — пазбавіць свабоды; **знепрытомнець** — самлець. Істотна, што на рускую мову яны перакладаюцца не адным словам, а спалучэннямі. Так, **зніякавець** па-руску — *почувствовать неловкость*, **зняволіць** — *лишить свободы*, а беларускаму **знепрытомнець** у рускай мове адпавядае словазлучэнне *потерять сознание*.

Ведайце асаблівасці сваёй мовы і поўніцай карыстайцеся яе багаццем.

**Падрыхтавала Вераніка Бандаровіч**

# Свята з ірландскім акцэнтам

**Іван Ждановіч**

**У Мінску сябры з Ірландыі сёлета падрыхтавалі да Дня святога Патрыка вечарыну ў Доме дружбы. А моладзь весела прайшлася па горадзе парадам з ірландскімі сцягамі. Трэцім складнікам свята стаў Фестываль ірландскай культуры, ужо чацвёрты па ліку, у Палацы моладзі.**

"Мы любім ірландскую культуру, таму не першы год адзначаем Дзень святога Патрыка ў Беларусі, — гаварыла, адкрываючы вечарыну ў Доме дружбы, намеснік старшыні таварыства "Беларусь — Ірландыя", старшыня праўлення Дзіцячага фонду духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік" Марыя Міцкевіч. — Людзі гэтай краіны блізкія нам па духу. Мы ўдзячныя гасцінным ірландскім сем'ям за тое, што ў іх кожны год адпачываюць і аздараўліваюцца сотні беларускіх дзяцей".


ІВАН ЖДАНОВІЧ

Выступаюць артысты фольк-групы "Рагнеда"



Лім О'Мара і Міхась Міцкевіч на свяце ў Доме дружбы

Артысты Новага драматычнага тэатра паказалі на вечарыне ўрыўкі з спектакля "Каралева прыгажосці" па п'есе драматурга Марціна Мак-Донаха. Было відаць, што акцёры на чале з рэжысёрам Дзянісам Нупрэйчыкам стварылі вельмі душэўны спектакль, прэм'ера яго адбудзецца хутка на сцэне Палаца культуры прафсаюзаў. Арыгінальны, жывы пераклад п'есы на беларускую мову зрабілі Мірослава і Міхась Шавыркіны. Быў на вечарыне, а таксама паказваў прысутным, як гучыць яго родная мова і зухавата танцаваў пад музыку ансамбля "Рагнеда" ірландзец Лім О'Мара. Былы настаўнік, дырэктар пачатковай школы з Ірландыі цяпер стала жыве ў Беларусі, пры яго ўдзеле рэалізуюцца значныя ірландска-беларускія гуманітарныя праекты.

Сваімі ўражаннямі пра леташнія выступленні ў Ірландыі падзяліліся артысты фольк-кантры-групы "Рагнеда". Яны, аднымі з першых сярод беларусаў, праехаўшы палову Еўропы, падарожнічалі па далёкай краіне на ўласным аўто, жылі ў глыбінцы ў кляштары хрысціянскіх братоў недалёка ад акіяна і атрымалі "акіян станоўчых эмоцый" ад зносінаў з ірландцамі. Падарожнікі з захапленнем расказвалі, як умеюць ірландцы танцаваць па некалькі гадзін без перадыху свае нацыянальныя танцы, рухі якіх адточваліся стагоддзямі. Ці спяваць аж да раніцы патрыятычныя песні-балады. А яшчэ плённа працаваць. На вечарыне артысты "Рагнеды" выконвалі як беларускія, так і ірландскія, кельтскія песні і мелодыі, а салістцы Юліі Гібкоўскай падпявала ўся зала.

Варта дадаць, што таварыства "Беларусь — Ірландыя" працуе ў нашай краіне з 1997 года, яго ўвесь час узначальвае Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, сын Якуба Коласа. Пры падтрымцы сяброў з Ірландыі цяпер у Беларусі рэалізуецца шэраг дабрачынных праектаў. У прыватнасці, аказваецца дапамога дамам-інтэрнатам у Чэрвені, Мар'інай Горцы, у вёсках Гарадзішча Баранавіцкага, Куль Стаўбцоўскага, Тарасікі Барысаўскага раёнаў.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11 **E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк. **Тыраж:** 2000 **Заказ:** 347